

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№10 (192) ЛІПЕНЬ 2015 ГОД

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ЯК ВЫЦЯГНУЦЬ З КРЫЗІСУ "БРАЦКІЯ" НАРОДЫ ?

**Часта даводзіцца чуць, нібыта беларусы і рускія – амаль браты родныя. Раней, праўда, братоў было крыху больш, але ўкраінцы заявілі: « Никогда мы не будем братьями ни по родине, ни по матери. Духа нет у вас быть свободными – нам не стать с вами даже сводными». І братоў рэзка паменела, адразу ажно на 33,3%**

Няхай, канечне, ступень сваяцтва высвятляюць генетыкі, але як падаецца мне найпершымі для беларусаў братамі з'яўляюцца… грэкі. Хто не пагаджаецца з гэткім сцвярджэннем няхай падшукае свае аргументы.

Ну,самі пагляд зіце:пат эрытор ыі крыху большая Беларусь, па насельніцтву на мільён-другі пераважаюць грэкі. І ў Беларусі, і ў Грэцыі ва ўладзе, што істотна, стаяць папулісты с бясконцымі абяцанкамі-цацанкамі: Лукашэнка і Цыпрас. Яно і зразумела, папулістам быць лёгка, калі аднаго "корміць" Расея, а другога Еўрасаюз. Але ж найгалоўнейшае падабенства ў іншым: гэтыя народы не проста любяць халяву, але іхняя любоў да яе пераўзыходзіць ўсе разумныя межы.

Знешні доўг Грэцыі складае 318 мільярдаў еўра. Па стане на 1 студзеня 2015 года валавы знешні доўг Беларусі склаў 40, 1 мільярда долараў. Калі падзяліць агульны доўг на ўсіх жыхароў Грэцыі ад малога да вялікага, то атрымліваецца, што кожны з іх вінен па 27 тыс. 272 еўра. У той час кожны беларус мусіць аддаць крэдыторам 4 тыс. 288 долараў валавога знешняга доўга.

На нядаўнім рэферэндуме грэкі прагаласавалі супраць патрабаванняў міжнародных крэдыторац, якія патрабуюць павысіць пенсійны ўзрост і памяншыць заробак. Беларусы і наогул не думаюць пра даўгі сваёй дзяржавы і сваю адказнасьць перад крэдыторамі, а ўлады нават і не плануюць раіцца з імі наконт гэтага пытаньня. Наадварот, улады вядуць перамовы з многімі краінамі і валютнымі арганізацыямі наконт новых крэдытаў. Тыя аднак пакуль не спяшаюцца з выдачай грошай.

З 2000 па 2010 гады ВУП (валавы ўнутраны прадукт) Грэцыі вырас у два разы. Афінам трэба было проста пакінуць выдаткі бюджэту на тым жа ўзроўні. Але яны павялічвалі іх нават хутчэй, чым рос ВУП. І тут справа, якраз у той самай халяве: Грэцыя мела выхад на шырокі еўрапейскі крэдытны рынак, чым і карысталася. Крэдыты, якія набірала краіна, ішлі не на развіццё эканомікі, а на паляпшэнне сацыяльнай сферы. То бок, на павелічэнне пенсій, на зніжэнне пенсійнага ўзросту, на стварэнне дадатковых працоўных месцаў у дзяржапараце для бюракратаў.

У гэты самы час Беларусь таксама напоўніцу скарысталыся крэдытнымі магчымасцямі, якія прадстаўляла Расія і іншыя крэдыторы. Але ўлады не здолелі атрымаць з гэтых фінансавых уліванняў заўважную эканамічную аддачу.

Але ж, як на мой розум, грэкі скарысталіся халявай куды больш удала. Многія грэкі акрамя шэрагу сацыяльных даплат мелі 13 і 14 пенсіі і магчымасьць выйсці на пенсію ў 50-55 гадоў. Яшчэ на пачатку года сярэдняя пенсія ў Грэцыі была каля 540 еўра, якая ў тры разы перавышае беларускую. Там, праўда, 26% беспрацоўных ( ці ў Беларусі меней, калі беспрацоўе тут старанна прыхаванае?). Але ж беспрацоўны там – гэта не бомж ці тунеядзец, як тут. Там гэткі чалавек штомесяц атрымоўвае сацыяльную дапамогу (ад 300 да 800 еўра) і можа больш-менш прыстойна на яе жыць.

І самае галоўнае: Еўропа абавязкова дапаможа Грэцыі, а вось, хто дапаможа беларусам наладзіць прыстойнае жыцьцё? Эканамічны стан Расіі пагаршаецца з кожным месяцам, а Расея на сённяшні дзень зьяўляецца асноўным крэдыторам для тутэйшай улады.

**Алесь Шумскі**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

ФУТБОЛ

## ШУМІЛІНСКІЯ ФУТБАЛІСТЫ ВЫХОДЗЯЦЬ У ЛІДЭРЫ

**Суботняя гульня ў Гарадку зноў скончылася чарговай, ужо чацвёртай запар перамогай: ва ўпартай барацьбе ФК "Шуміліна" выйграў матч у гарадоцкай каманды "Прамень" з лікам 2: 1.**

Суботнія гульні з бліжэйшымі суседзямі мелі прынцыповае значэнне ў сувязі з барацьбой за выхад ў чацвёрку наймацнейшых ва ўсходняй групе чэмпіянату Віцебскай вобласці.

Нагадаем, што на першым этапе першынства пры двухкругавай сістэме ў "плэй-оф" трапляюць па чатыры каманды з дзвюх груп. Калі чарговае буйное паражэнне "Бешанковічаў", верагодна паставіла крыж на іх далейшай "кар'еры" у турнірным шляху, то перамога ФК "Шуміліна", чацвёртая запар, ўмацавала нашых футбалістаў маральна ў далейшай барацьбе з прызнанымі лідэрамі, што, безумоўна, рэзка ўскладніла далейшую спартыўную "кар'еру" "Праменя".

Заўзятары мелі задавальненне назіраць відовішчны футбол у выкананні маладых футбалістаў. Праўда, "цудоўнае ператварэнне" шумілінцаў у адных з лідэраў усходняй групы звязана найперш з узмацненнем каманды за кошт наваполацкіх легіянераў. І як вядома, за кошт традыцыйнага нашага "дванаццатага" гульца ¬– шумілінцаў актыўнай групы падтрымкі заўзятараў, якія заўсёды падтрымліваюць сваю каманду ў гасцявых гульнях.

У пачатку гульня, як і належыць гаспадарам поля, адзначылася нападамі футбалістаў "Праменя". Яны гулялі больш актыўна, але нашы шумілінцы былі арганізаваны ў абароне, пераходзячай у хуткія контратакі.

Першымі памыліліся шумілінцы. Але гарадоцкі футбаліст Вячаслаў Мочкін на 42 хвіліне матчу не здолеў рэалізаваць пенальці. Затое Раман Івашкевіч з ФК "Шуміліна" у аналагічнай сітуацыі быў дакладны.

Прапусціўшы мяч, каманда "Луча" кінулася адыгрывацца.

Шумілінцы, зноў умацаваўшы абарону, выходзіць ў контратакі - і адна з іх адзначылася другім голам. Міхаіл Шапавалаў ўдала замкнуў прастрэл з флангу - 0: 2. Яшчэ больш прыкладышы намаганняў для нападу, тым самым стварыўшы некалькі шанцаў для ўзяцця варот, гарадокская каманда Сяргея Курякова змагла толькі размачыць рахунак. Ілля Жарнасек па флангу увайшоў у штрафную і прабіў па нашых варотах.

. У выніку ФК "Шуміліна выйграў у" Праменя "2 -1. Галы забілі: 1:0 – Івашкевіч Раман (64, з пенальці) 2:0 – Шапавалаў Міхаіл (82) 2:1 – Жарнасек Ілля (86, пас. - Жогаў).

Суддзі матчу: Міхаіл Глякаў, Юрый Платонаў, Дзмітрый Салко (усе - Віцебск).

Пасля 6 матчаў ФК "Шуміліна" займае другое месца ў турнірнай табліцы групы А.

Шмат водгукаў на выніку матча з'явілася і ў групе ФК "Шуміліна" Укантакце: "Вялікі дзякуй усім футбалістам, заўзятарам і ўсім хто перажываў за матч, вельмі добрая каманда чакала нас сёння, але поспех быў на нашым баку !!! Уперад Шуміліна Уперад !! ! "" Дзякуй велізарнае за гульню, за станоўчыя эмоцыі. Гульня сёння была суперрррр! !! Спадзяюся, усе, хто атрымаў сёння траўмы, да наступнай гульні будуць у форме. Чакаем з нецярпеннем новую гульню і новых перамог !!!! ".

**Алесь Прыбярэжны**

ПРАВАПАРАДАК

## РОСТ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫХ ПРАВАПАРУШЭННЯЎ

**За 2014 на тэрыторыі раёна было зафіксавана 5998 адміністрацыйных правапарушэнняў пры тым, што на канец года ў раёне пражывала ўжо толькі 18736 чалавек.**

Існуючая ў Беларусі сістэма ўлады патрабуе з кожным годам збіраць у бюджэты раёнаў ўсё больш штрафаў за адміністрацыйныя правапарушэнні.

Адпаведна Нацыянальны статыстычны камітэт з кожным годам мае дадзеныя пра рост адміністрацыйных правапарушэнняў у краіне. Калі ў 2010 годзе ў Беларусі было зафіксавана 2 млн. 596000 правапарушэнняў, то ў 2014 годзе ўжо амаль чатыры мільёны - 3 млн. 967 тысяч правапарушэнняў. Але пры росце правапарушэнняў суды ўсё менш разглядаюць такіх спраў на сваіх пасяджэннях. Калі ў 2010 годзе ў судах разглядалася амаль кожнае шостае правапарушэнне - 428 тысяч, то ў мінулым годзе толькі кожнае чатырнаццатая адміністратыўная справа - 283 тысячы.

У Шумілінскім раёне за апошнія пяць гадоў назіраецца параўнальна невялікі, але ўстойлівы рост адміністрацыйных правапарушэнняў і гэта пры тым, што насельніцтва скарацілася за гэтыя гады больш чым на дзве тысячы чалавек. Так у 2010 годзе ў раёне было зафіксавана 5154 правапарушэнняў, а ў 2014 годзе ўжо іх колькасць узрасла ўжо амаль да шасці тысяч - 5998.

Пры гэтым за пяць гадоў адбыўся і істотны рост штрафаў, якія атрымліваюць грамадзяне ў беларускіх рублях: з 68,6 млрд. рублёў у 2010 годзе, да 248, 1 млрд. рублёў у мінулым годзе. Толькі спагнаць у казну атрымліваецца значна менш гэтых штрафаў ад накладзеных: у 2010 годзе – 32,3 млрд. рублёў, а ў 2014 – 89,1 млрд. рублёў.

**Алесь Прыбярэжны**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

## НА ВУЛІЦАХ ШУМІЛІНА

**У райцэнтры інтэнсіўна вядуцца работы па замене цеплатрасы па вуліцы Кароткіна, а на праезнай частцы дарогі ўздоўж вуліцы Сіпко падмалявалі пешаходную зебру з "ляжачым паліцыянтам".**

Не менш важная падрыхтоўка да зімовага сезону - замена цеплатрас. Кожны дзень сіламі рамонтнай брыгады Шумілінскага камунгаса вядуцца працы па вуліцы Кароткіна каля дома № 16 (інтэрнат 1 УП Шумілінская райаграпрамтэхніка), жылых дамоў № 20 і № 22.

На сегодняшній дзень, да прыкладу, ужо замянілі каля 160 метраў цеплатрасы каля дома № 22, роў засыпалі зямлёй, а ўчастак з новымі трубамі ўжо апламбаваны.

На вуліцы Сіпко Шумілінскага камунальнікі зрабілі афарбоўку разметкі зебры пешаходнага пераходу. Цяпер ярка-жоўтыя і белыя палосы "ляжачага паліцыянта" сталі больш прыкметнымі для вадзіцеляў.

**Алесь Прыбярэжны**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# ЯК ПРАЦУЕ "ПРАМАЯ ЛІНІЯ" Ў РАЁНЕ

**Ужо больш за пяць гадоў вырашаецца праблема з гарачай вадой для жыхаркі Шуміліна і яе суседзяў Алены Елавецкай. А вось жыхар аграгарадка Амбросавічы Мікалай Ліскоў выказаў удзячнасць мясцовым уладам за зроблены рамонт дома.**

Напрыканцы чэрвеня ў кабінетах гарадскіх, раённых і абласных адміністрацый не змаўкалі тэлефоны. Беларусы звярталіся за дапамогай па жыццёвым пытаннях, з просьбамі па добраўпарадкаванні населеных пунктаў і прапановамі. Таксама часта гучалі словы падзякі за аператыўнае вырашэнне праблем.

Зрэшты, на Шуміліншчыне прамыя лініі працуюць ужо тры гады. І за гэты час колькасць зваротаў стала менш.

Сяргей Белагалоў, кіраўнік спраў Шумілінскага райвыканкама:

Я лічу, што дадзеная сістэма наладжана. Яна патрэбна людзям, каб людзі маглі, перш за ўсё, у выхадны дзень, калі не знайшлі яны час звярнуцца ў райвыканкам у працоўны дзень. Асноўную масу пытанняў займаюць усё ж такі пытанні, звязаныя з жыллёва-камунальнай гаспадаркай.

Алена Елавецкая, Шуміліна:

Падыходзіш да крана, адкрываеш яго і чакаеш 15 хвілін, пакуль пойдзе сапраўды гарачая вада.

І такая сітуацыя паўтаралася з дня ў дзень на працягу як мінімум пяці гадоў. Алена і яе суседзі аднойчы звярнуліся на «прамую лінію» Шумілінскага райвыканкама. Тады ўлады ўзялі праблему на кантроль. І вось ужо амаль 2 месяцы яе вырашаюць.

Праблему Мікалая Ліскова з аграгарадка Амбросавічы таксама можна назваць кропкавай. У 4-х кватэрным доме заселеныя толькі 2 кватэры. Ды і ў іх жыве па аднаму чалавеку, тым не менш на просьбу адрамантаваць яго жыллё ўлады адгукнуліся.

Мікалай Ліскоў, жыхар вёскі Амбросавічы Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці:

Я звярнуўся на "прамую лінію" сёння з удзячнасцю пра тое, што ўмацавалі падмурак і зрабілі дах. Яшчэ мне зрабілі ганак.

Сустрэчы ўлады і народа з дапамогай "прамых ліній" на Віцебшчыне практыкуецца ўжо амаль 3 гады. Вопыт паўночнага рэгіёну апынуўся карысным і для ўсёй краіны. За 6 месяцаў 2015 года свае праблемы вырашылі тысячы беларусаў. Да канца года такіх людзей будзе ў разы больш. Бо кожную суботу з 9 да 12 раніцы любога гатовыя выслухаць прадстаўнікі мясцовай улады.

**ctv.by**

КРЫМІНАЛ

# СУСТРЭЧА З КАМУНАЛЬНІКАМІ

**2 ліпеня першы намеснік Шумілінскага РАНС Рыгор Жук правёў выступ у працоўным калектыве камунгасу Шумілінскага раёна.**

Рыгор Леанідавіч праінфармаваў прысутных аб пажарнай сітуацыі, якая склалася на тэрыторыі раёна, агучыў асноўныя прычыны пажараў і гібелі людзей ад іх на канкрэтных прыкладах. А каб не здаралася трагедый, распавёў пра асноўныя патрабаванні эксплуатацыі электраабсталявання, газавых установак, печаў, а таксама папярэджанні пажараў па прычыне курэння ў стане алкагольнага ап'янення. Падчас выступу ён зрабіў акцэнт на ўменне грамадзян дзейнічаць у выпадку ўзнікнення пажару, правільна выклікаць пажарную аварыйна-выратавальную службу, карыстацца першаснымі сродкамі пажаратушэння. Разглядзеў пытанне дзіцячай гібелі, нагадаў прысутным аб недапушчальнасці пакідання малалетніх дзяцей без нагляду, заклікаў іх тлумачыць дзецям небяспеку гульні з агнём, на вадаёмах, у кар'ерах і лесе. Прывёў трагічныя прыклады гібелі дзяцей. Нагадаў прысутным пра тое, што кожнае дзіця павінен быць пад наглядам і ведаць асноўныя правілы пажарнай бяспекі, правілы паводзін на вадаёмах і лясных масівах. Бацькі абавязаны навучыць дзяцей гэтых правілах, так як з іх, у першую чаргу, дзеці бяруць прыклад.

У завяршэнні Рыгор Леанідавіч адказаў на пытанні, якія тычацца пажарнай бяспекі. Усім прысутным былі раздадзеныя ўлёткі па пажарнай бяспекі.

**Ян Вайтовіч**

ФУТБОЛЬНЫ ТУРНІР

# "ХМЯЛЬНЫ" ТУРНІР САБРАЎ ГАСЦЕЙ

**У чацвёрты раз у Віцебску праводзіўся адкрыты кубак ФК "Хмель". Падзея арганізуецца выключна для аматарскіх футбольных каманд. Хлопцы з Шуміліна, Гарадка, Новалукомля, Масквы, Мінска, Смаленска і іншых гарадоў едуць на бераг Віцьбы.**

Клуб аматарскага футбола "Хмель" у чацвёрты раз выступіў арганізатарам футбольных спаборніцтваў і прыняў сваіх гасцей. Турнір адбыўся на аматарскім полі ў парку па праспекце Люднікава.

Гульні адкрытага кубка "Хмель-2015" стартавалі да дня горада Віцебска. Спаборніцтвы, якія праходзілі на берагах Віцьбы, сталі сапраўдным футбольным святам з музыкай і півам.

Арганізатары спрабуюць спалучаць здаровы лад жыцця і барацьба за перамогу з прасоўваннем культуры "спажывання". Настрой падзеі абяцаюць ствараць дыджэямі, халоднымі напоямі, Бір-понг спаборніцтвамі, і, вядома, футболам.

Па словах Аляксандра Мініна, гендырэктара футбольнага клуба, на спаборніцтвы 2015 з'ехалася 12 каманд-удзельніц, якія прадстаўляюць розныя расійскія і беларускія гарады. Футбалісты і заўзятары прарабілі далёкую дарогу, каб сустрэцца на футбольным полі і прадэманстраваць выдатную гульню. Усіх гульцоў, зусім звычайных людзей, аб'ядноўвае толькі адно - любоў да футбола. Іх галоўнай мэтай з'яўляецца зусім не перамога, а ў першую чаргу дэманстрацыя прыгожай футбольнай гульні.

Дэманстраваць свае прафесійныя навыкі футбалісты маглі на працягу 2-х дзён, кожны матч з удзелам пяці гульцоў, доўжыўся 12 хвілін. Часу на тое, каб праявіць сябе цалкам замала, але гэта не перашкодзіла гульцам ўсталяваць рэкордная колькасць забітых мячоў і прадэманстраваць добрую гульню.

Перамога ў Кубку-2015 Хмеля дасталася барысаўскай камандзе Інструмент - Камплект. Але другім месцы мінская каманда «MIX», на трэцім віцябляне «Віт-Інструмент», на чацвёртым «Орша-Камхоз».

**Алесь Прыбярэжны**

АБЛАСНЫ КОНКУРС

# КОНКУРС ПЛЫЎЦОЎ-РАТАВАЛЬНІКАЎ

**Каманда Шумілінскага РАНС стала пераможцам у штогадовым конкурсе сярод няштатных плыўцоў-ратавальнікаў груп выратавання на вадзе падраздзяленняў МНС Віцебскай вобласці.**

26 чэрвеня ў горадзе Новалукомлі на возеры Лукомльскае прайшоў штогадовы конкурс прафесійнага майстэрства сярод няштатных плыўцоў-ратавальнікаў груп выратавання на вадзе падраздзяленняў МНС Віцебскай вобласці.

У конкурсе прыняло ўдзел 26 каманд з гарадскіх, раённых аддзелаў па надзвычайных сітуацыях і пажарных аварыйна-выратавальных атрадаў вобласці і каманда ОСВОД г. Оршы.

Спаборніцтвы удзельнікаў конкурсу праходзілі на трох дыстанцыях: "Плаванне-эстафета 3х100 метраў"; дыстанцыя "Выратаванне тапельцаў" (удзельнікі каманды з дапамогай лодкі, выратавальнай дошкі і іншага неабходнага рыштунку праводзілі дзеянні па выратаванні і дастаўцы на бераг пяці тапельцаў); дыстанцыя "ОСВОД" (удзельнікі спаборнічалі ў веславанні на лодцы, выратаванні пацярпелага).

Ва ўпартай барацьбе сярод падраздзяленняў другой групы пераможцам стала каманда Шумілінскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях. Другое месца заняла каманда Ушацкага райаддзела, трэцяе месца заняла каманда Талачынскага РАНС.

Сярод падраздзяленняў першай групы трэцяе месца заняла каманда Чашніцкага райадзела, другое месца заняла каманда Полацкага гарадскога аддзела, і абсалютным пераможцам конкурсу стала каманда пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада №1 ААТ «Нафтан» Наваполацкага гарадскога аддзела па надзвычайных сітуацыях.

**Уладзімір Амбросаў**

РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

# ПІЛІГРЫМЫ ПРАЙШЛІ ШУМІЛІНА

**Традыцыйная пілігрымка з Віцебску ў Полацк, якую арганізуе Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква, пачалася 7 ліпеня. Больш за сто кіламетраў пілігрымы з усёй Беларусі прайшлі ў малітве і разважаннях над пакутніцкім лёсам манахаў-базыліянаў, забітых у Саборы Святой Сафіі.**

А пачалася пілігрымка з Віцебску, дзе быў забіты святамучанік Язафат Кунцэвіч – полацкі грэка-каталіцкі (уніяцкі) архібіскуп. Гэта 21 штогадовая пілігрымка. Сёлета яна праходзіла пад дэвізам "Люблю прыказанні Твае, Госпадзе!". Удзел у пілігрымцы бралі вернікі Грэка-Каталіцкай Царквы з усіх куткоў Беларусі. На шлях выйшла з Віцебска больш за 40 чалавек. Наступныя пілігрымы далучаліся ўжо па дарозе.

Пра маршрут пілігрымкі распавёў прыхаджанін полацкай грэка-каталіцкай царвы Святой Параскевы Віктар Стукаў: "Зранку ў Віцебску адбылася служба, затым пілігрымы адправіліся ў шлях, першы прыпынак быў у Заронаве, далей – у Шуміліне (8 ліпеня), Обалі, а затым мы выйшлі з Гаран і прыбылі ў Полацк да Сафійскага сабора". Традыцыйны шлях святамучаніка Язафата - ад месца ягонага мучаніцтва (Віцебск) да полацкай катэдры і месца мучаніцкай смерці Полацкіх пакутнікаў манахаў базыльянаў - пілігрымы прайшлі за 5 дзён: з аўторка да суботы.

А 12 ліпеня ў царкве адбылася ўрачыстая служба.

Распавядае айцец Андрэй Крот: "Гэтай пілігрымкай мы ўшаноўваем нашых святых, ушаноўваем святога Язафата, які быў забіты ў Віцебску і ўшаноўваем таксама не кананізаваных яшчэ і не прызнаных царквой святымі мучанікамі манахаў базыліянаў, якія былі забітыя 11-га ліпеня 1705 года расейскім царом Пятром І ў Полацкай Сафіі. Мы молімся за тое, каб царква як мага хутчэй прызнала іх святымі – гэта наш такі малітоўны подзвіг, хоць у Госпада яны ўжо святыя, ужо прызнаныя, але тут на зямлі патрэбна прайсці некаторыя этапы фармальнага прызнання.

**Ян Вайтовіч**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

АНАЛІТЫКА

# КТО ПОБЕДИТ НА ВЫБОРАХ ПОСЛЕ ЛУКАШЕНКО?

**Александр Лукашенко получил Беларусь 21 год назад, когда 10 июля 1994 года победил во втором туре тогдашнего премьера Вячеслава Кебича.**

А между первым и вторым турами номенклатура, почуяв, что старый хозяин спекся, спешила переметнуться в лагерь будущего триумфатора. Кебичу, кстати, советовали под каким-нибудь предлогом отменить второй тур, но чрезвычайный сценарий не был пущен в ход.

Нынешний же хозяин Беларуси в вопросе сохранения своей власти, судя по его же высказываниям, мягкотелости не допустит. Так что разговоры некоторых обозревателей о вероятности второго тура на предстоящих 11 октября выборах (мол, чтобы блеснуть перед Европой видимостью конкуренции) мне лично представляются абсолютно неубедительными. Не тот человек Лукашенко, чтобы играть в такие опасные, глупые игрушки.

Другое дело, что и железные правители не вечны. И если исход той президентской кампании, что разворачивается сейчас, многим представляется фатальным — не видно факторов, которые помешали бы действующему президенту, будучи во здравии, оформить себе пятый срок, то вот исход первых выборов после Лукашенко для думающего человека не столь очевиден.

**Система никуда не денется**

В классической оппозиционной парадигме на смену нынешнему авторитарному режиму как бы автоматом (ну, народ же истомился под игом) приходит власть демократов-рыночников-европейцев.

Поэтому-де главное — бороться за свободные, справедливые выборы. А значит — прежде всего против нынешнего авторитарного правителя, создавшего по-своему совершенный механизм «элегантных» побед.

Но кто вам сказал, что выборы после Лукашенко непременно окажутся свободными? Ведь останется созданная им система. Останется у рычагов власти вертикаль, в том числе силовики. И что, они безвольно уступят эти рычаги тем, кто начнет чистки и люстрацию?

Другое дело, что ныне кажущаяся монолитной вертикаль на самом деле состоит из разных групп интересов. И вот между ними вероятна ожесточенная схватка за право поставить у руля государства своего человека.

Впрочем, схватка будет, скорее всего, молниеносной. В частности, с учетом того, что иначе, как в том анекдоте, придет лесник и всех разгонит. Москва ведь, памятуя украинский опыт, наверняка будет жестко мониторить развитие сюжета после Лукашенко.

В итоге велика вероятность того, что на выборах в новой исторической ситуации какой-то из номенклатурных кланов, захватив инициативу, постарается создать зеленую улицу для своего кандидата. При этом будут даны закулисные гарантии Кремлю: не волнуйтесь, Беларусь никуда не уйдет!

Короче, выборы, которые мы тут пытаемся смоделировать, с большой долей вероятности окажутся под жестким контролем как здешних близких к кормилу элит, так и Москвы.

«Режим консолидирован не столько фигурой лидера, сколько общностью интересов», — отметил в комментарии для Naviny.by эксперт НИСЭПИ Сергей Николюк. По его словам, электоральные авторитарные режимы не для того строятся, чтобы проигрывать на выборах — их можно сбросить только революцией.

От себя добавлю, что те же опросы НИСЭПИ показывают: настроя на революцию в нашем обществе нет. В периоды усугубления экономической ситуации белорусы в принципе пока не рвались на баррикады, напротив — старались держаться за рабочее место. В итоге, например, попытки оппозиции организовать народные сходы осенью гиперинфляционного 2011 года провалились.

События же на Украине только усилили среди белорусских обывателей страх перед революцией. К тому же в ситуации временного управления страной после ухода первого президента на каждом углу, не сомневайтесь, будут стоять БТРы.

**Чего хотят белорусы?**

Но даже если представить, что по-какой-то непонятной причине вожжи будут ослаблены и первые выборы второго президента окажутся более-менее конкурентными, то кто вам сказал, что нынешние политические противники режима возьмут верх?

Они-то и сейчас, когда биполярность внутренней политики просто требует собрать все силы в кулак, не в состоянии между собой договориться, выдвинуть единого кандидата. Что уж говорить о ситуации, когда покажется, что жар-птицу власти можно ухватить за хвост в одиночку!

Здесь вспоминается еще раз сюжет выборов 1994 года, когда те, кого называли демократами (Станислав Шушкевич, Зенон Пазьняк, сошедший с дистанции Геннадий Карпенко) попытались бороться за власть порознь. Я прекрасно помню, как мои знакомые, люди прогрессивных взглядов, разделившись на приверженцев Шушкевича и Пазьняка, жестко полемизировали между собой. Так же был разорван весь демократический электорат. Кто в итоге оказался на коне, все вы хорошо знаете.

Но сделаем еще одно допущение: на выборах после Лукашенко оппозиция, вдруг осознав историчность момента, консолидируется, выдвигает сильного кандидата — рыночника, поборника прав человека, европейца и пр.

Вы уверены, что его лозунги реформ (ясен пень, понуждающих к лишениям) окажутся более убедительными (особенно если уровень жизни и так упадет ниже плинтуса), нежели программа того, кто пообещает стать новым батькой — более щедрым и мягким, умеющим договориться с Москвой о коврижках и при этом не пишущим чересчур крутых указов?

Независимая социология (НИСЭПИ, BISS) показывает, что среди белорусов сильны патернализм, ориентация на «русский мир». Большинство вроде как и за перемены, но не хочет терпеть ради этого тяготы, то есть может выбрать новую сильную руку или, по крайней мере, предпочтет радикальному трибуну «крепкого хозяйственника».

Как видите, даже при ряде маловероятных допущений перспектива, что после эпохи первого президента к власти придет адепт демократии, рынка и европейского выбора, более чем туманна.

**Проклятие патернализма**

«Смена власти — это не финиш, а только старт, шанс построить другую Беларусь», — подчеркивает Николюк.

Он приводит пример Украины, где было уже два Майдана, причем первый оказался мирным триумфом противников прежней авторитарной власти — казалось бы, чего еще желать? Но решительных реформ, активного строительства новой Украины не видно и сегодня, причем не только из-за войны, считает собеседник Naviny.by.

По словам Николюка, и для Беларуси проблема заключается отнюдь не только в отстранении Лукашенко. «В белорусском обществе очень много тех, кто способен жить лишь в условиях государственной опеки», — говорит эксперт.

Он подчеркивает: в обществе должны быть силы, способные построить другую, более передовую систему. Причем речь идет не сугубо о раздаче министерских портфелей иным персонам, но и о готовности социума в целом.

Вот в этом направлении, считает Николюк, и следует прежде всего работать тем, кто хочет изменить систему в Беларуси. В том числе и пытаясь наладить контакт с частью правящей элиты, поскольку своего потенциала для обеспечения кардинальных перемен в стране нынешней оппозиции явно недостает.

**Александр Класковский**

***Читать полностью:* naviny.by**




НАЗІРАННЕ

# ІНІЦЫЯТЫВА "ПРАВА ВЫБАРУ - 2015" ПАЧАЛА НАЗІРАННЕ

**Ініцыятыва "Правы ВЫБАРЫ - 2015" пачала кампанію назірання за выбарамі. Пра гэтя было абвешчана 1 ліпеня на Прэс-канферэнцыі**

Кан'юнктура цяпер - "вельмі спрыяльная для беларускага рэжыму", заявіў на прэс-канферэнцыі першы намеснік руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч. "Адсутнічае адзіны кандыдат, - сказаў ён. - Але беларускаму рэжыму важна паказаць, што выбары прайшлі без парушэнняў і фальсіфікацый. На гэта будуць кінуты ўсе сілы і сродкі. Незалежныя назіральнікі патрэбныя для таго, каб зафіксаваць і паказаць парушэнне, калі яны будуць".

У ініцыятыву ўваходзяць восем арганізацый: Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), аргкамітэт па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя", руху "Гавары праўду" і "За Свабоду", Партыя БНФ, Беларуская партыя "Зялёныя", прафсаюз РЭП, аргкамітэт Партыі свабоды і прагрэсу.

"Мы вельмі сур'ёзна падыходзім да гэтай кампаніі, - сказаў старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч. - Так як мы ідзем на выбары са сваім кандыдатам (партыя падтрымлівае Таццяну Караткевіч), то для нас гэта не проста кампанія назірання, але і адстойвання тых галасоў, якія будуць аддадзены за нашага кандыдата ".

Сустаршыня оргкомитата па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" Віталя Рымашэўскі падкрэсліў, што адным з самых важных момантаў назірання за выбарамі будзе фіксацыя яўкі. "Сёння працэс фальсіфікацыі выбараў гэта не толькі Лідзія Ярмошына. Дзейнічае цэлая армія фальсіфікатараў. Члены выбарчых камісіі і нібыта незалежныя назіральнікі ад праўладных арганізацый - каля 80 тысяч чалавек. Наша задача максімум, каб столькі ж адказных і сумленных грамадзян прынялі ўдзел у назіранні, каб яны бачылі, як улада фальсіфікуе галасаванне ".

Адзін з нацыянальных каардынатараў кампаніі "Права выбары - 2015" Дзяніс Садоўскі падкрэсліў, што сваёй галоўнай мэтай кампанія ставіць прадухіленне парушэнняў заканадаўства на ўсіх этапах выбарчай кампаніі ў Беларусі. Ён адзначыў, што па ўсіх зафіксаваным фактах парушэнняў назіральнікі кампаніі будуць адразу ж падаваць скаргі. Акрамя таго, плануецца публікаваць справаздачы па асноўных этапах выбарчага працэсу (фарміраванне выбарчых камісій, збор подпісаў і рэгістрацыя кандыдатаў, агітацыя, датэрміновае галасаванне, дзень выбараў).

"Касцяк кампаніі будуць партыйныя актывісты, але мы плануем прыцягнуць да назірання і іншых людзей, - сказаў Садоўскі. -" Права выбару - 2015 " не падтрымлівае ні аднаго кандыдата. Наша задача - сабраць факты парушэнняў".

На пытанне, ці прапаноўвалі прадстаўнікі "Права выбару - 2015" аб'яднацца для назірання за выбарамі камандам старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі і старшыні партыі "Справядлівы свет" Сяргея Калякіна, Юрась Губарэвіч паведаміў, што такія прапановы былі, але дамовіцца не атрымалася. "Пасля этапу збору подпісаў у выпадку, калі каманды Лябедзька і Калякіна вызваляцца, зноў прапануем ім аб'яднацца", - адзначыў Янукевіч.

**"Беларускі партызан"**

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# ШТО АГУЛЬНАГА Ў БЕЛАРУСІ З ГРЭЦЫЯЙ?

**У Грэцыі працавала мадэль «беларускага эканамічнага цуду», і працавала даволі працяглы час. Як і Беларусь, грэкі не збіраліся праводзіць структурныя рэформы, на якія выдаваліся грошы, а працягвалі жыць на шырокую нагу.**

Увесь мінулы тыдзень прайшоў «пад знакам Грэцыі». Краіна на рэферэндуме адмовілася выплачваць выдадзеныя ёй раней пазыкі. У сувязі з гэтым у ЕС паўстала пытанне, што рабіць з грэкамі далей: ці павінна такая краіна быць у ЕС.

Чаму Грэцыя назапасіла такія даўгі перад знешнімі крэдыторамі? Як ні дзіўна, у Грэцыі працавала мадэль «беларускага эканамічнага цуду», і працавала даволі працяглы час. Грэцыя ўступіла ў еўразону ў 1 студзеня 2001 года. Разам з гэтым яна атрымала доступ да лёгкіх крэдытных рэсурсаў. Але гэтыя крэдыты краіна накіроўвала не на развіццё, а на добрае жыццё. За чужы кошт там пабудавалі «сацыяльна арыентаваную дзяржаву».

У краіне хапала кур'ёзных надбавак і субсыдый. Напрыклад, ніхто не кантраляваў медыцынскія ільготы. У выніку з'явілася шмат «невідушчых», якія атрымлівалі грошы за інваліднасць па зроку, і ў той жа час працавалі таксістамі. Некаторыя дзяржаўныя ўстановы ўсталявалі надбаўку служачым за тое, што яны своечасова прыходзяць на працу! А ў некаторых дзяржустановах надбаўка давалася тым, хто самастойна рабіў ксеракопію дакументаў.

Пераезд чыноўніка з паверха на паверх у будынку аплачваўся як паўнавартасны пераезд у іншы будынак — з транспартнымі выдаткамі і аплатай грузчыкаў. Больш за тое, чыноўніку яшчэ і даплачвалі за нязручнасці!

Зразумела, у такой краіне, калі грошы можна атрымаць з паветра, нармальна ніхто не працаваў. Мой знаёмы ў адпачынку ў Грэцыі паехаў на экскурсію, і ў іх зламаўся аўтобус. Справа была пад вечар, і людзям хацелася ў гатэль. Новага аўтобуса чакаць было паўтары гадзіны, і таму турысты выклікалі таксоўкі. На шматлікія выклікі прыехала адна (!) машына, грэк-кіроўца паглядзеў на турыстаў, нешта сабе пад нос прабурчэў, развярнуўся, і з'ехаў. Без кліентаў, пусты! На пытанне турыстаў, «што гэта было?» перакладчык сказаў: «Вы яму не спадабаліся».

Прыкладна так і працавала ўся краіна. Навошта працаваць, калі ўсё дадуць «за так»?

Гэтая сацыяльная халява магла скончыцца ў 2008 годзе, калі грымнуў сусветны эканамічны крызіс. Грэцыя апынулася ў першых яго шэрагах і ўзвыла: «Дайце грошай!»

Добранькія МВФ разам з Еўрасаюзам далі грошы — гады чатыры таму Еўрапейскі банк і МВФ на мадэрнізацыю інфраструктуры і структурныя рэформы ў эканоміцы далі краіне ў агульным 240 мільярдаў еўра. Памятаеце, Аляксандр Лукашэнка неаднаразова казаў, што калі б Беларусі далі хаця б палову «грэчаскіх крэдытаў», то ў нас была б не краіна, а цукерка?

Добра, што не далі, а тое б і мы зараз былі ў сітуацыі Грэцыі. Таму што, як і Беларусь, грэкі не збіраліся праводзіць тыя самыя «структурныя рэформы», на якія выдаваліся грошы, а працягвалі жыць на шырокую нагу. Калі ж надышоў час гэтыя грошы аддаваць, краіна апынулася банкрутам. Знешні доўг Грэцыі складае каля 350 мільярдаў еўра, альбо 185% ВУП.

У чым розніца і падабенства Беларусі і Грэцыі? Падабенства ў тым, што і там, і там выбудаваная «сацыяльная дзяржава» на чужыя грошы. Праз расійскія датацыі і «нафтавы афшор», «газ у абмен на пацалункі» ды іншыя прывілеі Беларусь здолела часова стварыць «сацыяльную дзяржаву для народа». Але ўсё добрае калі-небудзь заканчваецца, скончыўся і гэты ільготны перыяд. А Беларусь, як і Грэцыя, не выконвала ўмовы крэдытавання. Напрыклад, узяты на «структурныя рэформы» крэдыт stand-by у МВФ у 2009 годзе пайшоў на «подкуп выбарцаў». За ім грымнуў крызіс 2011 года, і Беларусь узяла новы крэдыт у Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС пад абавязальніцтва прыватызаваць дзяржуласнасць на $2,5 мільярда штогод. І гэтыя абяцанкі засталіся не выкананымі.

Розніца паміж Беларуссю і Грэцыяй у тым, што мы пакуль спраўна сплачваем сваю запазычанасць. З крэдытам МВФ 2009 года мы ўжо разлічыліся, хоць і з цяжкасцю. З гэтага вынікае нашая надзея ўзяць грошы ў МВФ яшчэ раз — з 15 ліпеня эксперты фонду будуць працаваць у сінявокай, каб ацаніць мэтазгоднасць выдзялення новых грошай. А вось з крэдытам АКФ ЕўрАзЭс праблема — яго давядзецца рэструктурызаваць. Тым больш, што правапераемнік гэтага фонду — Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця — пакуль што не ўзгадніў з уладамі сінявокай новага стабілізацыйнага крэдыту Мінску.

Розніца яшчэ і ў тым, што беларусы звыклі зацягваць паясы — у нас няма такой колькасці ільготаў насельніцтву, як у Грэцыі. Але наўрад ці можна сказаць, што ў нас няма і неабгрунтаваных затратаў.

І яшчэ пра пазыкі. Валавы знешні доўг Беларусі на 1 студзеня 2015 года склаў 40 мільярдаў 61 мільён 400 тысяч долараў ЗША, або 52,8% ВУП. Альбо $4 225,4 на душу насельніцтва, уключаючы немаўлят і пенсіянераў. Між тым, мы працягваем дамагацца новых крэдытаў, і зусім не гатовыя пачынаць тыя самыя структурныя рэформы ў эканоміцы.

Па сутнасці, пытанне толькі адно: як доўга працягне краіна без рэформаў? Бо без іх «грэчаскі сцэнар» — толькі справа часу.

**Сяргей Пульша**
**"Новы час"**

ПРАТЭСТНЫ РУХ

# АРМЕНІЯ: ЭЛЕКТРАМАЙДАН І АПАЗІЦЫЯ

**Як акцыі супраць падвышэння коштаў на электраэнергію ў Арменіі сталі пратэстам супраць дзеючай улады? Пра гэта НЧ расказвае сябра апазіцыйнага Армянскага нацыянальнага кангрэсу Арменак Давлацян.**

***— Што ўяўляла сабой армянская апазіцыя напярэдадні Электрамайдана, як яшчэ называюць гэты пратэст?***

— Галоўным чынам дзейнасць апазіцыі будавалася вакол яе парламенцкай групы. У парламенце ёсць група з сямі дэпутатаў, якія ўваходзяць у кааліцыю «Армянскі нацыянальны кангрэс» (АНК). Праўда, сам АНК таксама не вельмі аднародны. Адзінае, што аб'ядноўвае яго сяброў, — намаганне не дапусціць росту аўтарытарызму прэзідэнта Сержа Саргсяна. Адсюль, напэўна, і адсутнасць адзінай пазіцыі адносна Электрамайдана. Некаторыя з партый — суб'ектаў АНК спрабавалі палітызаваць пратэсты. Іншыя лічылі, што сацыяльна-эканамічныя патрабаванні больш актуальныя. Справа ў тым, што сярод мола¬дзі адчуваецца стомленасць ад партый, і непартыйны характар акцыі на Баграмяна дапамагаў уцягнуць шмат простых людзей у палітычны працэс.

***— Які сацыялагічны партрэт сярэднестатыстычнага ўдзельніка Электрамайдану?***

— Ядро маніфестантаў складае моладзь, пачынаючы з 16 гадоў. Сярэдні ўзрост актывістаў — 25–30 гадоў. Па сутнасці, гэта першы ў армянскай гісторыі калектыўны выступ, абсалютная большасць удзельнікаў якога не фармавалася як асобы ў СССР. Незвычайна было пабачыць на вуліцах раней даволі апалітычных хлопцаў са спальных кварталаў, якія сапраўды жывуць вельмі кепска. Юнакі са спальных кварталаў прынеслі нешта новае ў тактыку пратэстоўцаў. Нашы паліцэйскія мелі вопыт разгону грамадзянскіх акцый, аднак упершыню сутыкнуліся з «нахабнай» вулічнай блакадай цэнтру. Праўда, каардынацыю акцыі ўзялі на сябе маладыя людзі з добрай адукацыяй. Шмат хто з іх вучыўся за мяжой, меў уяўленне пра ролю прэсы, прававыя межы паліцэйскіх і г.д.

***— Ці далі пратэсты новыя твары апазіцыі?***

— Так. З'явілася шмат новых людзей. Напрыклад, Вагінак Шушанян, адзін з лідараў ініцыятывы «Не рабунку!». Аднак казаць пра палітычную кар'еру Вагінака Шушаняна і іншых лідараў Электрамайдану яшчэ рана.

***— Расійская прэса ў час кульмінацыі пратэстаў пераконвала аўдыторыю, што Майдан у Арменіі немагчымы з-за праблемы Карабаху. Маўляў, армяне не пойдуць на эскалацыю, баючыся за сваю мяжу з Азербайджанам.***

— Я ўжо казаў, што ў 2008 годзе ў Ерэване былі больш маштабныя пратэсты, чым зараз, аднак карабахская праблема пры гэтым не гуляла асаблівай ролі. Аднак, безумоўна, тэма Карабаху часткова стрымлівае апазіцыю. Гэтым карыстаецца і Масква. Тое, што яна на днях выказала гатоўнасць прадаць Арменіі ракетны комплекс «Іскандэр», было вельмі пазітыўна ўспрынята ў армянскім грамадстве.

***— Апазіцыя паспрабавала перафарматаваць пратэст, аб'явіўшы ўладам ультыматум і заявіўшы пра смеццевую акцыю «Крок наперад». Пасля гэтага паліцыя разагнала авангард маніфестантаў. Якая будучыня ў пратэсту цяпер?***

— Усіх затрыманых падчас разгону ўвечары выпусцілі, і зараз ідуць кансультацыі, што рабіць далей. У цэлым, улада перахапіла ініцыятыву ў радыкальных груп, якія спрабавалі накіраваць сацыяльны пратэст у палітычнае рэчышча. Але казаць пра тое, што ўсё скончылася, на мой погляд, заўчасна. Думаю, абвастрэнне сітуацыі цяпер трэба чакаць наступнай вясной, калі ўлады пачнуць мяняць канстытуцыю. Зараз у Саргсяна заканчваецца другі прэзідэнцкі тэрмін. Больш абірацца ён не мае права. Таму ў адміністрацыі рыхтуюць праект пераходу з прэзідэнцкай да парламенцкай рэспублікі. Гэта дазволіць Саргсяну ў статусе прэм'ера па-сутнасці застацца кіраўніком краіны, прычым на неабмежаваную колькасць кадэнцый. Думаю, трэба чакаць рэакцыі грамадства, і самае галоўнае, што гэты пратэст будзе больш палітызаваны.

**Алег Новікаў**
**"Новы час"**

ПАЛІТВЯЗНІ

# САВЕЦКІЯ МЕТАДЫ

**Шэсць палітычных вязняў застаюцца за кратамі ў Беларусі, сярод іх – экс-кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 году Мікалай Статкевіч.**

Шэраг дэмакратычных структураў аб'ядналіся вакол ініцыятывы вылучэння Статкевіча і на сёлетніх выбарах. Гэта мае стаць праявай салідарнасці і прыцягнуць увагу грамадства да праблемы палітвязняў, на якіх па-ранейшаму ў месцах зняволення аказваецца ціск. Днямі стала вядома, што да Мікалая Дзядка, які адбывае пакаранне ў калоніі №9 у Горках, не пусцілі адваката. У сакавіку Мікалай павінен быў выйсці на волю пасля 4,5 гадоў зняволення, але яго прысудзілі яшчэ да аднаго году зняволення ў калоніі строгага рэжыму, – прыгадвае праваабаронца Алесь Бяляцкі:

*- Прычым дадалі подла – за тры дні да сканчэння тэрміну. Ён атрымаў яшчэ дадатковы год. Гэта абсалютна савецкія прыёмы. Яны так рабілі з савецкімі дысідэнтамі. Як распавядаў Міхась Кукабака, калі ён сядзеў і яму заставаўся тыдзень да сканчэння тэрміну, чарговы суд, тады тры гады давалі, зараз у нас сістэма постсавецкая – чалавек адпаведна атрымлівае год, ужо не тры, але гэта можа цягнуцца бясконца.*

Прыгадаем, што пачаткова ўжо 26 гадовы Мікалай Дзядок адбыў 4,5 гады зняволення за нібыта хуліганскія дзеянні ў дачыненні да афіцыйных будынкаў і павінен быў выйсці на волю 3-га сакавіка 2015 году.

**spring96.org/be/news/78167**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 15.07.2015 у 17.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.